Цана 10 кап. (граш.)

Пралетарыі ўсіх краін, еднайцеся!

Орган Часовых Упраўленняў Віленскай вобласці і горада Вільна

# ВІЛЕНСКАЯ ПРАЎДА

№ 23
18 кастрычніка 1939 г.
Серада

## КАНДЫДАТЫ ВЫЗВАЛЕНАГА НАРОДА

Дзень, калі працоўныя горада Беластока звярнуліся са зваротам аб скліканні Народнага Сабрання для вырашэння пытання аб дзяржаўным устройстве ў Заходняй Беларусі, увойдзе ў гісторыю. На шматлюдных сходах, мітынгах, народ аднадушна далучыўся да звароту беластокцаў і Заходняя Беларусь уступіла ў перадвыбарчую кампанію.

Перадвыбарчыя сходы ператвараюцца ва ўсенародную дэманстрацыю любві і адданасці вызваленага народа краіне Советаў.

Працоўныя Заходняй Беларусі вылучылі лепшых сваіх сыноў і дочак кандыдатамі ў дэпутаты Народнага Сабрання. Вылучаюць і даюць наказ, каб кожны дэпутат адстайваў на Народным Сабранні правы працоўных, каб Народнае Сабранне ўстанавіла на вызваленай зямлі ўладу рабочых і сялян.

Не можа быць большага гонару і пашаны, чым тая, якая нам прадстаіць,—гэта ўліцца ў адзіную сям'ю працоўных Совецкага Саюза, далучыцца да свабоднай Совецкай Беларусі.— Так заявіў на сходзе ў горадзе Браслаўле рабочы-пільшчык т. Кавалеўскі Александр. І бурная авацыя ўсіх прысутных на сходзе падкрэсліла, што ён выказаў думку народа.

У горадзе Маладзечна вылучан кандыдатам у дэпутаты селянін - бядняк Міхалевіч Владімір Адамавіч. Яго шлях-гэта шлях сына народа. На працягу 20 год уладання польскай шляхты тав. Міхалевіч вёў упартую настойлівую барацьбу за знішчэнне варварскага эксплаататарскага ладу. Яго некалькі разоў кідалі ў турму, здзекваліся над сям'ёй, адабралі апошняга каня, але нічога не застанавіла Владзіміра Адамавіча. — Я верыў гаворыць ён — што прыдзе час, калі над народамі Заходняй Беларусі заззяе яркае сонца свабоды.

Перадвыбарчыя сходы вылучылі кандыдатамі ў дэпутаты сялян, рабочых, інтэлігенцыю. Сярод намечаных многа жанчын. Гэта ўпершыню ў Заходняй Беларусі жанчына карыстаецца такімі палітычнымі правамі. На адным з прадвыбарчых сходаў хатняя гаспадыня тав. Дынч Міра заявіла: „самым безрадасным і цяжкім лёсам быў жаночы. Скажыце хто лічыўся з жанчынай пры польскай уладзе? Мы былі толькі рабамі. А цяпер мы маем права выбіраць і быць выбранымі ў дзяржаўныя органы, па самаму дэмакратычнаму ў свеце прынцыпу. Гэта сапраўды цудоўна і ацаніць вельмі цяжка“.

У Беластоку вылучана кандыдатам у дэпутаты Еўгенія Каплан. Яе ведаюць працоўныя горада, як актыўнага барацьбіта за вызваленне народа ад жудаснай эксплаатацыі і бяспраўя. Яна на працягу 8 год пакутвала ў польскай дэфензыве за тое, што смела і адкрыта змагалася за роўнапраўе жанчыны, за знішчэнне эксплаатацыі. І толькі чырвоныя палкі адчынілі дзверы цемнай камеры.

У Іодскай выбарчай акрузе вылучана сялянка бядначка Іванова Екацерына. Ёй усяго 19 год. Але яна ўжо спытала на сваіх плячах усё гаротнае сялянскае жыццё на самай цяжкай рабоце ў пана. Ужо 10 год сама сваімі ўласнымі рукамі яна здабывала сабе кавалак хлеба, і для яе вызваленне Чырвонай Арміяй Заходняй Беларусі было другім днём нараджэння, але ўжо днём светлым і радасным.

Ворагі працоўнага народа імкнуцца высунуць кандыдатамі ў дэпутаты людзей з цёмным мінулым, людзей, якія ў свой час выслужваліся перад польскімі панамі. Але гэтыя спробы ворагаў народа ўшчэнт разбіваюцца на сходах выбаршчыкаў.

22 кастрычніка ўвесь народ Заходняй Беларусі незалежна ад нацыянальнасці, социяльнага паходжання і веравызнання пойдуць к выбарчым урнам галасаваць за сваіх кандыдатаў.

22 кастрычніка дзень сапраўднага свята вялікай перамогі. З іменем вялікага Сталіна на вуснах народы Заходняй Беларусі пакажуць арганізаванасць і аддадуць свае галасы за тых, хто верай і праўдай аддан справе народнай.

Народы свабоднай Заходняй Беларусі горда ўзнімуць чырвоныя сцягі і пойдуць з імі галасаваць за тых, хто адстайвае інтарэсы працоўных.

## Вялікаму СТАЛІНУ шчырае дзякуй

На ўсходзе зорка свеціць,
Знікла хмара, холад, дождж —
То пад сцягам перамогі
Варашылаў едзе вождзь.

За вялікай, за пабедай
Для працоўных ён ідзе.
Паўстае для нас гаротных
Шчасця радаснага дзень.

Вось ідуць стальныя танкі
За атрадамі атрад.
Кожны з нас іх сустракае,
Кожны з нас свабодзе рад.

Афіцэры ўцякаюць
Ды ад Сталінскіх байцоў,
Але ўслед іх даганяе
Наша раць з усіх канцоў.

Мы свабоднымі ўжо сталі,
Расчыніўся для нас свет,
Жыць па-новаму пачалі,
Свой абралі камітэт.

І цяпер усе збяромся
Пашлем Сталіну прывет
Бо ён — мудры і вялікі
Даў жыццё нам, даў нам свет.

Наш вялікі родны Сталін
Нас пазбавіў ад ярма,
Мы яму спяваем славу
Ён нас ад смерці ратаваў.

Харук Георгій Андрэевіч,
селянін вёскі Пранчэйкава
Маладзечанскага павета.

—o:o—

## Свабоднага жыцця не аддадзім нікому

(Расказ былога панскага пастуха Мялешкі)

— Усё сваё жыццё я жыў у страшнай беднасці. Вёска Выгары, дзе я нарадзіўся, адным сваім выглядам гаворыць аб пакутным лёсе працоўнага селяніна Заходняй Беларусі: неўраджайнае поле, пакрытае каменнем, хмызнякі, балоты ды суцэльныя тарфяныя масівы, якія ў нас ніколі не распрацоўваліся — вось і ўсё багацце. У вёсцы хаты пакрыўленыя, маленькія. Усяго толькі тры хаты маюць падлогу, а ў астатніх замест падлогі — зямля. Многа курных хат без комінаў, ад чаго дым выядае вочы. Ва усёй вёсцы ёсць адзін пісьменны чалавек—былы салдат Анісім. Да яго мы хадзілі пісаць пісьмы, ён жа складаў нам розныя заявы, у якіх мы скардзіліся на панскае свавольства.

Аб выбарах нам ніколі ніхто не гаварыў, бо пры польскай уладзе мы, беларусы, не мелі права ўдзельнічаць у дзяржаўным жыцці, не маглі выбіраць. Панскі войт, даведаўшыся, што да нас у вёску прыходзіць настаўнік з Кемелішак і расказвае аб Совецкім Саюзе, данёс аб гэтым паліцыянту. Настаўніка арыштавалі, а у вёсцы зрабілі вобыск — спрабавалі знайсці бальшэвіцкія лістоўкі. Самымі брыдкімі словамі абзывалі нас польскія чыноўнікі. Мне здавалася, што жыццё ніколі не палепшыцца. Я не меў сваёй хаты, жыў у суседа, нанімаючы вугал. Не меў сям'і, бо нават сам сябе не мог пракарміць. Пан плаціў мне за работу 12 пудоў збожжа ў год. Вопратку я павінен быў набываць сам. Заработку вядома не хапала— і я галадаў.

З прыходам Чырвонай Арміі змянілася маё жыццё: сялянскі камітэт даў мне карову і ўсяліў у дом, які раней займаў панскі ўпраўляючы. Больш я ўжо на паноў працаваць не буду. Такога светлага і радаснага жыцця, якім мы цяпер пачалі жыць, мы не аддадзім нікому. Я ведаю, што гэта вялікі Сталін дапамог нам вызваліцца ад панскага прыгнёту. Увесь народ Заходняй Беларусі жадае ўстанаўлення Совецкай Улады.

## Стойкі барацьбіт за справу народную

Калі знаёміцеся з гэтай маладой жанчынай, то адразу не падумаеце, што перад вамі вопытная падпольшчыца. Яна пакідае ўражанне звычайнай хатняй гаспадыні, якая абрамянёна вялікай сям'ёй, малымі дзяцьмі. „Куды ўжо ёй займацца небяспечнай рэволюцыйнай работай”, —здаецца на першы погляд.

Але гэта іменна толькі здаецца.

Дзесяць год удзелу ў палітычнай барацьбе супроць польскіх улад, праследванні жандармеры закалілі Любу, яна яшчэ больш пераканалася ў правільнасці выбранага ёю рэволюцыйнага шляху. Любові Паўлаўне цяпер 34 годы. Нарадзілася яна ў сям'і беднага селяніна-беларуса ў вёсцы Лозічы, Глыбокскай воласці. Цяжка жылося дзяўчыне, але яна ўпарта імкнулася набыць хоць нямнога ведаў, стаць пісьменнай. Скончыўшы царкоўна - прыходскую школу, яна — 13-гадовая дзяўчына — пачынае ўжо жыць самастойна і працуе вартаўніком у школе. У 1919 годзе, у перыяд Совецкай улады, Люба зноў вучыцца ў Адзінай Совецкай Трудавой школе.

Але вось пачалася польская акупацыя 1920 года. Усе рускія і беларускія школы былі закрыты. Прышлося кінуць мары аб вучобе і ўзяцца за здабыванне кавалка хлеба. Працавала Люба на водачным заводзе ў Глыбокім, затым прадаўшчыцай у магазіне.

У 1930 годзе Любоў Паўлаўна разам са сваім мужам, малазямельным селянінам А. Пятух і братам Іванам сталі ўдзельнічаць у падпольнай рабоце, ў распаўсюджванні нелегальнай літаратуры. Гэта група падтрымлівала сувязь з работнікамі цэнтральнай рэволюцыйнай арганізацыі.

Работа групы Пятух неўзабаве становіцца вядомай жандармеры. Муж падвяргаецца рэпрэсіям і ў дні Першага мая 1930 года яго разам з іншымі рэволюцыйнымі сялянамі трымаюць тры дні пад арыштам.

У 1931 годзе, за два тыдні да Першага мая, зноў арыштоўваецца муж. Ен знаходзіўся у турме, а затым быў выпушчан пад нагляд паліцыі. Суд апраўдаў Пятуха з-за адсутнасці афіцыяльных улік.

Арышты мужа не толькі не запалохалі, а выклікалі ў Любы яшчэ большыя імкненні змагацца супроць палітычнага прыгнёту польскіх улад. Яна не толькі не спыніла рэволюцыйнай работы, але яшчэ больш пашырыла яе. Аднак вяла Люба работу настолькі канспыратыўна, што польская жандармерыя не здагадвалася ні аб чым. Прыдуць, здаралася, жандармы ўхату, бачаць гаспадара (мужа) — „ну, значыць, усё ў парадку“,—супакойваюцца яны. І як можна было падумаць, каб маці 5 дзяцей знікала кудысьці па палітычных справах?

А між тым Люба ў гэты самы час справаджвала прыбыўшага работніка ці выконвала іншыя тэрміновыя даручэнні падпольнай арганізацыі. Яна ўсю сябе аддавала рэволюцыйнай рабоце.

Насельніцтва горада Глыбокае аказала вялікую чэсць Любові Паўлаўне, вылучыўшы яе кандыдатам у дэпутаты Народнага Сабрання. Яна будзе і надалей стойка адстайваць інтарэсы беларускага народа і разам з усімі адданымі яго прадстаўнікамі дабівацца ўстанаўлення ў Заходняй Беларусі Улады Советаў.

М. Зерніцкі.

Гор. Глыбокае.

# УКАЗ

## Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР

### аб змяненні арт. 1 указа прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР ад 1 жніўня 1939 года „Аб дадатковых знаках адрознення для Герояў Совецкага Саюза“.

1. У змяненне арт. 1 указа Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР ад 1 жніўня 1939 года „Аб дадатковых знаках адрознення для Герояў Совецкага Саюза“ найменаваць медаль, уручаемую Героям Совецкага Саюза, — медаль „Залатая Звязда“.
2. Адпаведна змяніць найменаванне медалі у арт. 2, 3 і 4 указа.
3. Зацвердзіць рысунак медалі „Залатая Звязда“ і яе апісанне.
4. Устанавіць, што пры ўзнагароджанні другой і трэцяй медаллю „Залатая Звязда“ адначасова з медаллю Герою Совецкага Саюза ўручаецца Асобая грамата Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР.

Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР
М. КАЛІНІН.

Сакратар Прэзідыума Вярхоўнага Совета СССР
А. ГОРКІН.

—o:o—

## Апісанне медалі „Залатая Звязда“

Медаль „Залатая Звязда“ прадстаўляе сабою пяціканцовую звязду з гладкімі двухграннымі праменнямі на ліцавой старане. Даўжыня прамені — 15 міліметраў.

Абаротная старана медалі мае гладкую паверхню і аграніčана па контуру выступаючым тонкім абадком.

На абаротнай старане ў цэнтры медалі распаложана надпісь выпуклымі літарамі „Герой СССР“. Размер літар 4×2 міліметра. У верхнім прамені — нумар медалі, вышынёй ў 1 міліметр.

Медаль пры дапамозе куста і звяна злучаецца з прамавугольнай пласцінкай, маючай па баках выёмку. Размер пласцінкі 25×15 міліметраў.

Па ўздоўж аснаванняў пласцінкі ідуць прарэзы шырынёй ў 1 міліметр і даўжынёй 22 міліметры. Унутраная частка пласцінкі пакрыта чырвонай муаравай лентай.

Пласцінка мае на абаротнай старане нарэзны шкіў з гайкай для прымацавання медалі к адзенню.

Медаль залатая, вагаю 21,5 грама.

## Актывіст выбарчага ўчастка

Сёння ў Івана Петровіча Дубровіна радасны дзень. Першы раз на сваім жыцці ён адчуў сябе чалавекам патрэбным для грамадства. Да яго ў хату прышоў член камісіі па арганізацыі выбараў і запрасіў асабіста наведаць выбарчы ўчастак і дапамагчы праверыць спісы выбаршчыкаў. Іван Петровіч чалавек пісьменны. Ён — самавучка, але чытаў класікаў рускай літаратуры і лічыцца адукаванай асабай.

Іван Петровіч мае 65 гадовы рабочы стаж. Маючы 80 год ад роду, ён з 15 гадовага ўзросту адчуў на сабе ўвесь жах эксплаатацыі капіталіста. Паспрабаваў і батрацкай працы, і працы канторшчыка, але больш усяго работаў на вытворчасці. Цяпер, калі Дубровін стаў старым і ужо не можа працаваць — уласнік прадпрыемства звольніў яго, не назначыўшы, вядома, пенсіі. Іван Петровіч ледзь не памёр з голаду. Але вось прышла Чырвоная Армія, і жыццё змянілася. Часовае Упраўленне горада Маладзечна назначыла яму пенсію.

Аб сваім дэпутаце тав. Міхалёнку ён адзываецца па-бацькоўскаму цёпла: — Гэта самы дастойны чалавек сярод нас, — гаворыць Іван Петровіч — Міхалёнка я ведаю з самых малых год. Усё яго жыццё — гэта праца, цяжкая праца і ўпартае імкненне палепшыць умовы працы і скінуць панскі прыгнёт. Са сваім братам Антонам, які цяпер працуе ў горадзе Маскве, ён прымаў актыўны ўдзел у падпольных арганізацыях за што быў судзім і сядзеў у польскай турме. Ён будзе добра абараняць нашы інтарэсы. Лепшага кандыдата ў дэпутаты я не ведаю.

Іван Петровіч гаворыць спакойна і ўпэўнена. Ён адчувае сябе карысным членам грамадства.

Віцебскі.

—o:o—

## Кніга аб Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўцы

Дзяржаўнае выдавецтва калгаснай і соўгаснай літаратуры выпусціла кнігу „Усесаюзная сельска-гаспадарчая выстаўка“ пад рэдакцыяй Н. Н. Паспелава, А. В. Грыцэнка і Н. В. Цыцына.

Багата ілюстраваная кніга змяшчае падрабязныя апісанні павільёнаў выстаўкі. У ёй змешчаны: закон аб Ўсесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы, пастанова СНК СССР і ЦК ВКП(б) аб Усесаюзнай сельска-гаспадарчай выстаўцы, прамова тав. В. М. Молатава пры адкрыцці выстаўкі — 1 жніўня 1939 года, артыкул аб выстаўцы Н. В. Цыцына і іншыя матэрыялы.

Тыраж кнігі 500 тыс. экземпляраў.

(ТАСС).

